Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

**Умовы падпіскі:**
На год......12р. —
На поўгода.... 7р —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Нізалежная Беларусь!

Зьмест № 19: **М. Богдановічу**, верш Ясакара; **Памяці Максіма Богдановіча**, верш Макара; **У гадаўшчыну**, З. Бядулі; **Страцім-лебядзь**, Максіма Богдановіча; **К пытанню аб найменні дзяржаўных установаў**, проф. М. Д-Запольскага; **Хто я?** з архіва Р. Земкевіча; **Нявольнік**, поэма Чэрнышэвіча; **Сьмерць лясьнічага**, Якуба Коласа; **Нашым поэтам**, М. Запольскага; **Вершы** Сучаснага; **Весткі с краю**, **Беларускі тэатр** і др.

№ 19. 1918 г. 26-го мая 1918 г. № 19.

# ГАДАЎШЧЫНА СЬМЕРЦІ МАКСІМА БОГДАНОВІЧА.

(12 V—1917 г.—12 V—1918 г. ст. ст.)

## М. Богдановічу.

Вясновая ліра, чароўная ліра,
На раніцы грала аб сонцы;
І струны сьпевалі аб зорачнай шыры,
І струны сьпевалі без конца;
І вабілі згукі зямныя абшары,
І песьні ліліся ў хвалі,
І рэха будзіло таемныя мары,
І плакалі людзі ад жалю...
Бо нельга ні плакаць, як блізкі с чужыны
А бедных ратаях гавора;
Бо нельга ні плакаць аб роднай краіне,
Дзе зьдзекі, пакута і горо.
Поэта душа супакою ні знала,
Бо думкі да высі імчалісь;
Імчалісь да пушчы, да рэчнаго вала.
Іграў ен, а струны усе рваліcь...
Усе рваліcь, бо сьпеваў магутныя клікі
Замоцны былі, завялікі..
Са струнамі ліры і струны душы
Парваліcь . . . . . . . . .
. . . . . Далека ад роднай мяжы
Пашоў наш поэт той адвечнай дарогай,
Што йдзець аж да Самаго Бога.
Бо полыме сэрца паліло—ні грэло.
У тым полымі сэрцо згарэло...
А песьні поэта на нашай зямлі
Сьпеваець сын гора, тугі.
Іх зыкі ні моўкнуць — ні змоўкнуць ніколі
У вёсках убогіх на полі.
Душа песьняра іх жыццем акрапіла,
Дала ім натхненную сілу;
І людзі іх слухаюць — слухаць іх будуць,
Ніколі аб іх ні забудуць...

Ясакар.

## Памяці Максіма Богдановіча.

*(У рочніцу яго сьмерці).*

Навекі сьціх песьняр наш мілы,
Пакінуў ліру сіратой.
Гарэў аднэй аж да магілы
Ты думкай шчыраю сьвятой.

Здалек ад Бацькаўшчыны, хворы,
„Вянок" безсьмертны ты сплятаў;
У *«вясёлых струнаў пераборах»*
У свой родны край пералятаў.

Ты акваціў жыццем і верай
Вось гэты хмурны, бедны люд.
Прад ім ужо новай долі дзьверы,
А ты—ні чуеш... ты—ні тут.
Але жыве твой покліч звонаў,
Жыве чароўных музаў рой!
Німа для іх цяпер прыгонаў—
Апекі зьнішчанай, старой!

Там вечны покой, адпачынак,
А тут ні вызначаны льос,
Чуць нарыхтованы будынак
Ды, як даўней,—мільены сьлез.

Прачніся! глянь ты, наш прарочэ!
Што будзе з гэтаго, скажы?
Чаго ж яшчэ сьвет ад нас хоча—
Чые псуем мы рубяжы?

Не!.. спачывай ты лепей ціха
У нізьмерным царстві лірных слоў.
Ні згіне родная ткачыха—
Тчэ долю Бацькаўшчына зноў.

Сьпі, верны сын свае айчыны!
Ты скончыў песьні, як умеў.
Пра зоры сьветлай будучыны
Знаць, ні дарэмны твой напеў!

Макар.

## У гадаўшчыну.

«Мінулася грозная бура,
а мора дасюль яшчэ бьецца».
*М. Богдановіч.*

Мінуў год, а рана ішчэ так сьвежая, так балюча... На кожным кроку чуецца, што, як раз, яго ні хапае цяпер — пры адраджэнні роднаго краю. Але ні вернецца ен на бацькаўшчыну с чужыны, бо сьпіць у магілі вечным сном.

Богдановіч радзіўся ў Гродзеншчыне у 1892 г., але бацькі яго выехалі у чужыну, у Ніжні-Ноўгарад, калі Богдановічу было усяго два гады. Наслухаўшысь ад бацькоў сваіх аб родным краю, ен ішчэ малым хлапцом бывшы, усе марыў ды лятуцеў аб той далекай і мілай зямельцы сваіх бацькоў і дзядоў. Ен так рваўся усею душою і сэрцам да роднаго краю, так старанна і пільна шукаў злучэння з ім, што цудна-лірычныя парыванні яго чаруюць і вабюць свaей трагічнасьцю і пекнатой:

Узялі з грудзей Пана Бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся у небі,
Усыпалі сіні прастор.
І адтуль так маркотна і пільна
На край мой радзімы глядзяць,
Што ж там яны, ясныя, бачуць,
Чаго так дрыжаць і дрыжаць?

Гэтакім пэрлам поэзіі можа гордзіцца кожная з эўрапэйскіх літэратур. Такі багаты велічам абраз, выказаны кароценькімі славамі, рэдка каму с поэтаў удаецца. Кожны радок будзіць фантазію сваімі яркімі фарбамі. У прыгожай і утончанай форме выказано безмернае каханне да бацькаўшчыны: зоркі нясуць яму весткі з роднаго краю, яны маркотны... яны дрыжаць.. Дух поэта загадаў ім весткі даваць адтуль, каб хоць праз зоркі нямыя мець зьвязь з бацькаўшчынай. Але зоркі гавораць ніясна, мігцяць і дрыжаць, і душа поэта рвецца ад болю...

Падросшы крыху і сьвядома ужо даведаўшыся аб справе беларускаго адраджэння, Богдановіч зайздраваў тым «шчасьліўцам» з беларускіх поэтаў—дзяцей селян—што хоць пастушкамі былі, але у родным полі, у родным лузі, у сваіх уласных лесах, пушчах і балотах. Паводлуг яго зданнія, песьняры, жыўшыя у самых глухіх кутках роднай зямлі, маглі убіраць у сябе творчы, самабытны, абвеяны казкамі, дух сваійго народу. А яму, нібы дзецям Ізраіля з Бібліі, прыходзілося знаемінна з бацькаўшчынай...

Сказаў Міхась, раскрыўшы дзьверы.
Чэраз парог ступіў Ксавэры,
Вайшоў у землянку і спыніўся.
— Прысядзь, пан, тут,—засуэціўся
Міхась, і зэдлік падстаўляе.
Уздыхнуў абьезчык і сядае.
То быў мужчына ўжо паджылы.
— Ах, мой ты, Божэ добры, мілы!
Ото-ж як выбраўся ён скора!
Яшчэ ні дальш, як пазаўчора,
Ен гаманіў са мной, сьмеяўся
І аба ўсім мяне пытаўся,—
Міхась гаворыць і ўздыхае.
— Ох, браце: сьмерць ні разьбірае
І ні глядзіць нікому ў зубы:
Гадзюкай лютай с-пад падрубы
Зьнячэўку ўсадзіць свае джало,—
Сказаў Ксавэры важна, стала.
— А так.—Міхашча здазвалась.
Тым часам ужо і развіднялось,
Як два мужчыны вышлі с хаткі.
Крычалі качкі каля гаткі,
І дзесьці гусі гергяталі,
Цяцерукі ўжо такавалі,
Як бы жыды у час малення.
Міхась с Ксавэрым ў задуменні
Сьпігалі лесам маўчаліва
І толькі зрэдка сіратліва
Па слоўку кінуць два служакі
— Німа ўжо пана, нібаракі!—
Міхась гаворку пачынае.
— Німа,—абьезчык падцьверджае.
І зноў змаўкаюць задуменна.
— Ну, пане,—будзе цяпер зьмена,
І пойдуць новыя парадкі,—
Лясьнік сказаў свае дагадкі.
— А, пэўня, будзе талачэча,—
Ні без таго ўжо, чалавечэ.—
Уздыхнуў Ксавэры.—Шкода пана!
Ох, бедны, выбраўся зарана!
А жыць бы мог—такі здаровы,
Як бы той корч, ці сук дубовы.
Пажыць бы трохі яму трэба,—
Покой душы яго і небо!—
Так гаманілі, шлі прамкамі,
Дзяліліся думкамі, ўздыхалі
І, як вядзенна, выслаўлялі
Яны нябошчыка часамі
— Ні кепскі быў,—усё распытае
(Хай ён с сьвятымі спачывае),
Як ты жывеш, ці ты галодны.
Спачыў, ці не,—як бацька родны!
Без фанабэрыі быў ўсякай.
А прынясеш што,—без падзякі
Ен ужо ні выпусьціць, заплаціць...
А на дарэмшчыну ні кваціць.
— Быў чалавек ён справядлівы,
Ні фанабэрысты, праўдзівы,—
Ксавэры также падцьверджае.
На тым гаворка іх змаўкае,
І далей так ідуць яны. Заняты
Сваімі думкамі з іх кожны.
«Дык так,—ў лясьніцтві кут парожны,
Куток пакванны і багаты;
Ні застаіцца, ні згуляе:
Паноў ён моцна прыцягае,
Як рыб гарох у вазярыне.
І кожны у замку службу рыне,
Сюды пацісьнецца з ахвотай
І ні прыедзе, а пяхотай
За душу мілую прычхае»,—
Міхась з сабою разважае:
«Але хто ж гэта мейсцо займе?..
Яно то праўда, ў панской пльойме,
Сказаць, ні будзе відастачы.
Да горо ў тым—адзін ледачы,
А той без клёпкі, трэці злосны,
Ніспраўядлівы, безжалосны...
Назначаць гэтакаго ката,—
І да Цімоха скажаш—«тата».
Набыць дабро ні натта лёгка:
Яно, як шклечко тое, крохко,—
Чуць-чуць ні так ты дакранешся,—
І с чарапкамі застанешся!
А ліхо прыдзе без падмогі,
Бо ліху—торныя дарогі.
І ні міне яно нікога.»
Так сьмерць лясьнічаго старога
Міхасю душу ўскалыхнула
І ўсё ў верх дном пераварнула.
Уставало сонцо ужо з-за лесу
Скрозь тонкіх хмарачак завесу,
І ўсюды косы раскідало
І ўсё жывенькае вітало
Яго усход на ясным небе
І клапатком аб пільным хлебе
Дзянёчак новы зачынало.—
Як наш лясьнік і пан Ксавэры
Узышлі маўчком на двор «кватэры.»
На горцы ціхай, нівысокай,
І ад засьценку нідалёка,
У бок дарогі, каля сада,
Стаяла панская пасада.
Прасторны двор яе, вясёлы,
Заўсюды повен быў жывёлы:
Хадзілі куры чарадамі
У кампаніі важнай з індыкамі
І, распусьціўшы хвост мятлою,
Павун пахаджываў з павою,
Як пан вельможны, радавіты;
У кутку двара, каля карыта,
Крычалі качкі, паласкаліся,
І свінні з імі тут купаліся;
А каля кухні, пад ваконцам,
Сабакі грэліся на сонцэ.
Усё гаманіло тут, крычало
І па свайму гергятало.
Наліва зноў двор пачынаўся
(Ен с першым дворыкам стыкаўся).
Былі тут розныя будынкі:
Гуменцы, гумны і адрынкі,
Хлявы і стайні і аборы...
Відаць было, што ні са ўчора
Тут гаспадарка зачалася,
А з даўных часоў ўжо велася...
Грыгор—хурман хадзіў без дзела,
Бурчаў і лаяўся ён сьмела:
Цяпер нікога ні баяўся,
Хадзіў і лёгінька хістаўся
(Ен трохі стукнуў, мусіць, з гора).
— А ты чаго тут, мухамора?—
Грыгор насеўся на кухарку:—
От, як дзюбану табе па карку!..
— Пашоў! ні лезь! ах, ты брыдота!
Прыстаў, як лысы чорт з балота...—
— Эх, Наста! хочаш? пойдзем ў скокі!—
Сказаў хурман і ўзяўся у бокі,
Нагою тупнуў, закруціўся,
Прысеў і устаў, заварушыўся:
І то устае, то прысядае
І ногі ўперад выкідае.
— А каб ты спух! ну, і распуста!
Бадай табе было, гад, пуста:
Німа ні сораму, нічога...
Да пашануйся ты хоць Бога,
Хоць бы грэха ты пабаяўся!—
Але Грыгор ні супімаўся:
— Скачы, валяй і ты, Настуля!
Ну, што ж?—гулі, брат, дык гулі!
Пан пойдзе ў рай, а мы с табою...
Куды мы?—ў букту з галавою.—
— Накінь, Грыгор: нябошчык ў доме!
Пайдзі, прасьпіся на саломі.
І пані, увь, глядзіць...—Што пані?!
А я-то хто?! пане хурмане!
Дурное зткало ты, знаеш?
Чаму Грыгорам называеш?
Заві мяне «вяльможны пане!»
— Ніхай нябе зямля апране!—
А там, у доме, было горо:
Жывы і крэпкі яшчэ ўчора,
Сягоння быў ён нірухомы.
Глухі на усё, чужы жывому.
З засьценку шляхта пасхадзілась
І ў тым пакойчыку таўпілась,
Дзе пан ляжаў у дамавіне.
«Хай са сьвятымі ён спачыне»,
Уздыхалі, хрышчучысь, старыя,
Схіліўшы головы сівыя.
«Ні кепскі пан быў», гаварылі
І ціха, важна адхадзілі
І доўга кучкамі стаялі.
Паны сюды зьезджацца сталі.
Усе лясьнікі былі ужо ў зборы
У парадным стражніцкім уборы—
У суконных куртках са шнурамі,
А на грудзінах са знакамі.
На шапках буква «R» с каронай,
Каўнер стаячы і зялёны.
Яны па два, па тры стаялі
Каля паркану і чакалі,
Пакуль куды іх ні паклічуць;
Стаяць, усе рал пану зычуць
І царства вечнаго жадаюць,
Гавораць ціхінька, ўздыхаюць.
Наслухаць збоку іх—здавалось,
Што ўсе яны пасірацелі,
А што на сэрцы яны мелі,
Дык то ў глыбі душы засталось.
А толькі мушу я прызнацца,
Што як ўжо стало чуць зьмеркацца,
То лясьнікі пілі, сьпевалі,
Памінкі добрыя спраўлялі,
А потым сталі барукацца.
Амброжык Кубял разгуляўся,
Са ўсімі шчыра цалаваўся
І кварту трэцю ён ужо ставіў
І ўсею выпіўкаю правіў.
— Браткі, гуляйма! калі сьвято,
Дык трэба выпіць хоць багата,—
Крычаў Амброжык:—сьцеражыся!—

